# СЬМЯЛЯКІ

(П'еска для малодшых дзяцей)

Прымаюць удзел: **Петрык, Галя, Рыгор, Зося, Янка.**

**Петрык.** Я, дзеці, нічога не баюся. Я магу ўночы адзін па цёмнай хаце прайсьці.

**Рыгор.** Гэта няважна. А я і сабакі ня спужаюся. Як закрычу на яго ды замахнуся палкаю—ён і ўцячэ...

**Янка.** А я і воўка не баюся...

**Зося.** Ці-ж ты яго бачыў?

**Янка.** Бачыў. У клетцы.

**Рыгор.** А я тыгру бачыў.

**Зося.** На малюнку?

**Рыгор.** Ды не. У лесе...

**Галя.** У нас тыгры ня водзяцца.

**Рыгор.** А я бачыў. Як прыцэліўся з стрэльбы ды выстраліў, адразу ўцёк.

**Галя.** Хто, ты ўцёк?

**Рыгор.** Ня я, а тыгра ўцякла...

**Зося.** Гэта табе прысьнілася.

**Янка.** А вось дзяўчаты ўсяго баяцца.

**Рыгор.** Яно так. Мы нічога не баімся, а дзяўчаткі дык зараз уплач...

**Галя.** Як табе ня брыдка...

**Рыгор.** І ня брыдка—гэта праўда...

**Зося.** Праўда?

**Петрык.** Але-ж праўда. Аб гэтым усе ведаюць.

**Зося.** Ну, добра... (Шэпча нешта Галі на вуха).

**Янка.** Ты што там шэпчаш?

**Галя.** Яна кажа—якія вы... сьмелыя.

**Рыгор.** Хто? Мы? Мы самыя сьмелыя. Сьмялейшых за нас няма.

**Зося.** Што гэта? (Абарачваецца).

**Петрык.** Што?

**Зося.** Нехта крадзецца.

**Янка.** Дзе?

**Галя.** Вось там у кутку.

**Рыгор.** Што гэта там?

**Зося.** Ня ведаю. Можа, вужака?..

**Галя.** А можа тыгра?..

**Рыгор.** Тыгры ў нас ня водзяцца.

**Галя.** А ты-ж іх бачыў...

**Рыгор.** Не. Але... так, так, бачыў...

**Янка.** Што гэта мы спужаліся, ці што? (Адыходзіць).

**Петрык.** Чаго-ж нам пужацца... (Адыходзіць).

**Рыгор.** Пойдзем, дзеці, адсюль...

**Галя.** Ай, вунь вочы, блішчаць!..

**Зося.** І кіпцюры!

**Галя.** І хвост!

**Рыгор.** Дзеці! уцякайма барджэй, я скажу маме, няхай яна прагоніць...

**Янка.** Уцякайма!.. (Бягуць).

**Зося.** Вось дык сьмялякі хлопцы! Хлопцы, вярнецеся. Гэта мы пажартавалі.

**Галя.** Хадзеце сюды.

(Хлопцы асьцярожна ўваходзяць).

**Петрык.** Што там?

**Янка.** Вось і вочы блішчаць.

**Галя.** І хвост!..

**Зося** (выносіць кошку). Гэта-ж... кошка!

**Галя.** Ну, канечне, вы самыя сьмелыя—ня спужаліся.

(Хлопцы стаяць, схіліўшы галовы).

**Зося.** А вось на дзяўчат усё брэшаце—яны трусіхі...

**Петрык.** Гэта мы так. Больш ня будзем.

**Янка.** Толькі не расказвайце нікому аб гэтым.

**Рыгор.** Каб ты прапала. А прызнацца, мы добра спужаліся.

**Галя.** Ну, вось гэта лепш. А то—сьмя-ля-кі!

*(Заслона).*

С. З.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 3 Сакавік 1930 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

## АКЦЯБРАТАМ

*Верш дзяткора Ўл. РАМОНАКА* *Мал. А. ТЫЧЫНЫ*



*То ня дрэвы шумяць*
*За сьцяною,*
*То ня вецер за вёскай гудзе,*
*Гэта юная раць*
*Акцябратаў*
*Роўным строем*
*Пад сьцягам ідзе.*
*Ідзе сьмела і дружна у ногу*
*Між зялёных колгаскіх прысад.*
*Піонэрам ідзе на падмогу*
*Гэта юная раць акцябрат.*

А. НЯВЕРАУ

# КОЛЕКТЫЎ

Бацька чытаў газэту. У газэце было напісана слова „колектыў“. Доўга думаў Косьцік:

„Які колектыў? Што такое колектыў?“

І сам бацька ня мог вытлумачыць добра. Прышоў Косьцік у школу, запытаўся ў настаўніка.



Настаўнік пакуль нічога не сказаў, а пасьля заняткаў пайшоў з вучнямі на школьны агарод. Усе пачалі працаваць. Хто градкі акапваў, хто ваду насіў, траву палоў. Тут настаўнік сказаў Косьціку:

— Бачыш, як усе мы працуем. Аднаму чалавеку цяжка, і будзе ён працаваць цэлы месяц. А нам усім лёгка і весела, мы паробім градкі за адзін дзень. Гэта вось і будзе называцца школьны працоўны колектыў. Колектывы і ў рабочых на фабрыках ёсьць. Там усе працуюць на агульную карысьць, адзін другому дапамагаюць.

Быў у Косьціка хаўрусьнік Міколка. У Міколкі захварэў бацька. Матка пасылала Міколку ў лес

па гальлё, і Міколку праз гэта ня было калі вучыць заданьні. Успомніў Косьцік пра колектыў, кажа сваім таварышом:

— У Міколкі бацькі няма, а матка пасылае яго ў лес па гальлё. Колькі часу трэба цягаць аднаму. Давайце паможам яму колектывам!

Пайшлі дзеці ў лес усім гуртам і за адзін дзень нацягалі гальля для Міколкавай маткі цэлую гару. Потым усім колектывам пасеклі яго, злажылі пад хлявом у сухім месцы.

Весела ўсім працаваць, сьмяюцца, і ніхто не замарыўся. А Міколка вельмі рад быў, што таварышы памаглі яму.

# МЫ УСЕ—КОЛГАСЬНІКІ

*Апавяданьне А. ЛЕСАВОГА*

У Міронавай хаце траха ня кожны дзень поўна дзетвары. З усяго канца вёскі зьбіраюцца. Гэта—хаўрусьнікі сямігадовага Андрэйкі, Міронавага сына. Сам Мірон чалавек спакойны, добрай натуры, любіць дзяцей. Андрэйка-ж ценгле ўмее чым-небудзь новым зацікавіць сяброў. То ён змайструе самалёт з картону, то вятрак, які дзівосна круціцца рудаю мышкаю. Ці мала якія штукі ўмее выдумаць ён!

Сёньня Мірон з жонкай у горад паехалі. Хату на дзяцей пакінулі. А ім гэта і добра: сама лепш, калі ніхто з большых не мяшаецца ў іх справы.

Як толькі Мірон выправіўся з варот, памаленьку пасыпаліся, як гарох дробны, дзеці ў яго сьветлую новую хату. Тут і Волька Тодарава, і Янук Цуп-

**Што можна рабіць трактарам**



• *Трактарам аруць.*

(Глядзі другую старонку).



*Трактарамі косяць.*

рукоў, і Галенка Мікітава... Калі дзеці сабраліся, Андрэйка сьпярша паказаў ім сваю новую выдумку—трактар.

— Сам зрабіў — з гонарам хваліцца ён.

Дзеці гуртам, як бачыш, шчыльна абступілі новае для іх дзіва. Сапраўды Андрэйка зрабіў трактар! Такі, як у кніжцы намаляваны. Толькі і розьніцы, што замест калёс — тоненькія кацёлачкі, а рэшта—картон. Нават пафарбаваны вуглем. З картону зроблены тры невялічкія плугі і прывязаны ззаду.

— Гэта я ўсё сягоньня зрабіў,—хваліцца Андрэйка. Вочы



*Трактарам сеюць і барануюць.*

яго і ўвесь твар выражалі сур'ёзнасьць, ён лічыў сябе за большага, спраўнейшага. Лоб яго ў гэты час крыху моршчыўся, ноздры рабіліся шырэйшымі, і дыхаў ён часьцей ды гусьцей.

Але Андрэйка добры хлопец. Ён зробіць сам і ўсім пакажа ды раскажа.

— А мой тата казаў, што вясною трактарам араць будуць,—кажа сьветлазорая дзяўчынка Волька, самая жвавая і шустрая з усяго гурту.

— Але не такім!—важна спыніў яе Янук, паказваючы пальцам на Андрэйкаў трактар.

— Учора я дык увесь вечар слухаў, што мужчыны гаварылі,—умяшаўся Андрэйка,—усё пра трактар, колгас, насеньне...

— А я і ня ведаю, што гэта такое колгас—саромліва запыталася Манька Цімахова. Яна самая меншая сярод дзяцей.

— А я дык ведаю! — ганарыцца Янук.

— Ну, скажы.

— Колгас... гэта такі будынак, дзе... тут у Янука не хапае слоў. Ён чырванее, апускае ўніз вочы і адступаецца ў запечак.

— Ага, папаўся, як кот у пастку!—зарагатала Волька. Не хваліўся-б, калі ня ведаеш...

— Ціхаце! — супакойвае Андрэйка.—Я вам скажу. Я кожны раз слухаю пра колгас, калі ў нас зьбіраюцца на сход.

— Ну, кажы. Гэта праўда, што колгас такі... ну, што ўсіх там біць будуць бізунамі?—з запінкамі пачала Манька.

— Хто табе гэта казаў?

— Нейкі жабрак у нас быў. Казаў, што ён з колгасу. Там усіх б'юць і есьці няма нічога..

— А што-ж ён яшчэ казаў?—пытаецца далей Андрэйка.

— Каб ніхто ня пісаўся ў колгас. Гэтак ён казаў.

— Дык твой жабрак—кулак. Я ведаю... у нас казаў настаўнік, што багатыры-кулакі про-



*Трактарам жнуць.*

цію колгасу, і што яны знарок апранаюцца жабракамі ды падгаварваюць людзей, каб ня пісаліся ў колгас... Гэтакі і той жабрак,—важна, як настаўнік перад сходам, тлумачыць Андрэйка.

— А чаму-ж яны, багатыя, баяцца колгасу?—падышоў з кутка Янук.

— Бо ў колгасе будзе добра толькі бяднейшым і... тут Андрэйка зусім запнуўся. Ён хацеў дабавіць „і серадняком“, але забыўся гэтае слова.

— А колгас,—казаў ён далей,—гэта, ну, калі людзі бу-



*Трактарам малоцяць.*

дуць гуртам урабляць зямлю, колектыўна гаспадарыць, і ўсё такое... Цяпер кожны робіць на сябе і мае сваю зямлю, сваю жывёлу, а тады ні „сваёй“, ні „тваёй“ ня будзе,—будзе гуртавая зямля, жывёла, і гуртам рабіць будуць. Гэтак гаварыў настаўнік, — пацьвердзіў свае словы Андрэйка.

— А яшчэ казалі мужчыны, што наша вёска, і ўсе вёскі суседнія, з вясны стануць колектывамі. Цяпер рыхтуюцца: зьбіраюць насеньне, каб было чым



*На трактары вязуць хлеб.*

сеяць, пасьлязаўтра пачнуць будаваць гуртавы хлеў для жывёлы.

— А ці будзе трактар?—пытае нецярпліва Манька.

— У гэту весну будзе толькі адзін трактар. А налета і напазалета—уга, колькі тут трактараў будзе! Нават жаць, касіць і малаціць рукамі ня будуць—для ўсяго будуць машыны. Цяпер яны робяцца для нас на заводзе. Тады і расьці ўсё лепш будзе. Лён вырасьце такі, як



*На трактары і павазіцца можна.*

цяпер у нас каноплі растуць, а авёс такі, як самае вялікае жыта... Андрэйка так захапіўся, што пачаў гаварыць і пра тое, ня чуў ад мужчын.

Слухаюць дзеці, нават на гульні забыліся.

— А цяпер,—кажа Андрэйка калі ўжо ўсё перагаварыў і больш нічога ня мог успомніць,—вы за колгас, ці не?

Гэтак заўсёды канчаў сход старшыня іх сельсавету. Андрэйку вельмі спадабалася такая манера і ён рашыў не паддацца старшыні, — скончыць сход ня горш, чым той.

— За колгас! за колгас! І мы будзем колгасьнікі. І ў нас будзе колгас!—як пчолы ў вульлі, загаманілі дзеці.



*Сьцеражыся, саха, трактару дарогу!*



*Верш Я. ПУТЫРСКАЙ*
*Мал. Я. КАШКЕЛЯ*



# ЧАМУ Я УДАЛАЯ

Я дзяўчынка удалая,
Не глядзеце, што малая.
Магу шыць і маляваць,
Ўсё з паперы выразаць,
Добра кубікі складаць,
І сьпяваць, маршыраваць.
Магу вымыць і пасуду,
Ня люблю гразі і бруду.
Чыста мыюся сама,
Гэта звычка ўжо мая.
Маме я дапамагаю,
Прыбіраю, падмятаю,
Бо я знаю, што яна,
З працы зморанай прышла.
А чаму-ж я удалая,
Дык ніхто не адгадае?
Свой сакрэт адкрыць вам рада
— Бо хаджу ў дзіцячы сад я

**У наступным нумары часопісі друкуецца шмат апавяданьняў, вершаў, нарысаў, прысьвечаных 1-му Мая.**

**СЬПЯШАЙЦЕСЯ ПАДПІСАЦЦА НА ЧАСОПІС!**




*Апав. А. ДЫЛА* *Малюнкі А. КАШКЕЛЯ*

Сёньня цётка Алеся, настаўніца „0“ групы, расказвала дзецям пра колгас. Яна гаварыла пра тое, як цяпер сяляне дружна працуюць у колгасе. Шмат ёсьць работы сялянам увесну. Трэба ачышчаць насеньне, угнойваць попелам зямлю, потым араць трактарам і засяваць поле. Раней бядняк - селянін працаваў адзін, араў зямлю сахою ці плугам і жылося яму кепска. Каб пражыць, прыходзілася працаваць на кулака. Цяпер працуюць усе разам — колектывам. Замест сахі — ёсьць трактар. Працаваць куды лягчэй. І дзецям сялян - беднякоў жывецца лепей. Замест таго, каб сядзець заўсёды ў хаце, як раней, калі бацькі працавалі на кулака, яны цяпер ходзяць у дзіцячы сад. Горад дапамагае колгасам, шле ім падарункі — трактары і іншыя машыны.

Міхаська ўважліва слухаў, што расказвала цётка Алеся, а калі скончыла, сказаў:

— Давайце і мы пашлем падарункі ў колгас!

— Якія такія падарункі? — зьдзівілена закрычалі дзеці, — дык у нас-жа трактароў няма?

— Няма, але я вось што надумаў: у колгасе ёсьць дзіцячы сад, зробім усякіх цацак і пашлем дзецям. Гэта будзе наш падарунак колгасу. Але трэба раней спытацца ў цёткі Алесі, ці дазволіць яна.

Усе дзеці кінуліся да цёткі Алесі:

— Цётачка, Алесечка, можна?

— Зразумела, можна, але трэба нам падумаць, што паслаць.

Шмат было розных прапаноў. Урэшце парашылі зрабіць лёто і розныя цацкі з дрэва, а з дому прынесьці дзіцячыя кніжкі, у каго якія ёсьць.

Цётка Алеся дастала з шафы картону, разнакаляровай паперы, клею і ножніцы. Дружна, з ахвотай, узяліся дзеці за работу. Адны рабілі лёто, другія майстравалі ў сталярным кутку. Міхаська стараўся зрабіць усё як мага лепей, але гэта яму не ўдавалася. Выразаў вядзерца— падобна да бочкі, выразаў збанок—як капусты качанок.

Цётка Алеся і дзеці дапамаглі яму. Рады Міхаська, што і ён прымае ўдзел у працы. З дні працавалі дзеці. Зрабілі два самалёты і 4 лапаты. З дому прынесьлі шмат кніжак для чытаньня, а Міхаська пачку рознакаляровых алоўкаў для маляваньня.

Усё запакавалі ў вялікую скрынку і зьверху напісалі:

*Колгас „Кастрычнік“, дзіцячаму саду—падарунак ад вучняў „0“ групы.*

Скрынку на пошту несьлі ўсе дзеці па чарзе.

Праз два тыдні прынёс паштальён у школу ліст „0“ групе, у якім вось што было напісана:

— Дарагія таварышы, падарункі вашы мы атрымалі. Нам яны вельмі падабаюцца і мы любім з імі гуляць. Шчыра дзякуем за кніжкі і цацкі.

**Дзіцячы сад колгасу „Кастрычнік“.**



# АБ ТЫМ, ЯК МОЙ ТАТА ЗАСТРЭЛІЎ ТХАРКА

*(ДЛЯ ЗАБАВЫ МАЛАЛЕТКАМ)*

Неяк вечарам дахаты
Ішоў сьцежкаю мой тата.

Ішоў сьцежкаю мой тата
Позна ўвечары дахаты.



Пазірае ён, глядзіць:
На зямлі тхарок сядзіць,

На зямлі тхарок сядзіць,
І на тату не глядзіць.

Тата думае: тхарок
Найпрыгожанькі зьвярок,

Найпрыгожанькі зьвярок,
Калі толькі ён тхарок.

А тхарок сядзеў, сядзеў
І на тату паглядзеў,

І на тату паглядзеў,
І ўжо болей не сядзеў.





Тата борзьдзенька пачгаў,
Дома стрэльбу набіваў,

Вельмі скора набіваў,
Каб тхарок дзе не прапаў.

А тхарок да рэчкі мчыць,
Пад кусты тхарок ляціць,

А за ім зямля гудзіць—
Гэта тата мой ляціць.



Тата крыўдзіцца, крычыць
І затворам тарахціць,

Дубальтоўкай тарахціць—
„Пачакай мяне!“—крычыць.

А тхарок, задраўшы хвост,
Уцякае цераз мост.

Мчыцца з піскам цераз мост,
Аж да неба ўзьняўшы хвост.

Тата ляскае курком,
Ды шусь з горкі старчаком,

Паляцеў ён старчаком
І ў здагонку за тхарком.

Ну, а стрэльба у руках
Калі грукне: тарарах!

Калі грукне: тарарах!
Дык і скокнула ў руках.

Тата ў бок тады бяжыць,
А тхарок ужо ляжыць,





На зямлі тхарок ляжыць,
Не ўцякае, не бяжыць.

Тут, як бачыш, сьмелы тата
Пацягнуў тхарка дахаты,

І прынёс яго дахаты,
Узяўшы ў рукі, сьмелы тата.

Я быў рад, у ладкі біў,
А пасьля вось што зрабіў:

З тхарка чучала зрабіў,
І тады у ладкі біў.

Вось прад вамі мой тхарок
Намалёваны знарок,



Намалёваны знарок
Перад вамі мой тхарок.

**Даніла Хармс.**





*Цягнікі з гатоваю нафтаю.*

Ля берагу Касьпійскага мора ёсьць вялікі горад Баку.

Горад Баку лічыцца горадам нафты. Тут месьцяцца самыя багатыя дзялянкі, адкуль здабываецца наша нафта.

Нафтавыя вышкі, як густы лес, укрылі горад. Высокія, чорныя стаяць яны, нібы вартуюць залатое дно нафты.

## У ЗАТОЦЫ ІЛЬЛІЧА

У затоцы, названай імем Леніна, знаходзіцца многа нафтавых вышак. Калісьці на месцы цяперашняй затокі было мора. На дне яго, у нетрах зямлі, было многа нафты. І сталі людзі думаць, як-бы дастаць яе адтуль.

прыдумалі людзі так: засыпаць частку мора.





*Агульны выгляд часткі гораду Баку.*

# ГОРАД Н

**Нарыс Э. Гэзі**

Пачалася праца. Сабралі м
раблёў і давай разрываць го
паць мора, каб зрабіць на
зем'е.

І многа ўжо засыпалі.

І стаяць цяпер вышкі на т
ней бушавалі хвалі мора.

І цяпер яшчэ засыпаюць

## ЯК ЗДАБЫВАЕЦЦА

Нафта ляжыць глыбока ў
вярсту ўглыбкі.

На тым месцы, дзе хочуць
будуецца вышка. Робіцца ян
ваньня зямлі, каб у будынку
цаваць.

Электрычны мотор прыво
кі сьвідар. Ён пачынае сьвід
заючыся ўсё глыбей і гл
сьвідар з верхняга канца пр
бы, калі сьвідар ўразаецца
на першую трубу нашруб

# Д НАФТЫ

Ларыс Э. ГЭЗІНА

а. Сабралі многа рабочых, ка-
разрываць горы ды імі засы-
зрабіць на яго месцы суха-

засыпалі.
вышлі на тым месцы, дзе ра-
алі мора.
засыпаюць мора.

**АБЫВАЕЦЦА НАФТА**

глыбока ў зямлі. Траха не на

ы, дзе хочуць здабываць нафту,
. Робіцца яна на час сьвідра-
б у будынку зручней было пра-

мотор прыводзіць у рух вялі-
ачынае сьвідраваць зямлю, ура-
лыбей і глыбей у зямлю. На
нга канца прымацоўваюцца тру-
уразаецца ў зямлю глыбей,
бу нашрубоўваюць другую,



*Затока Ільліча.*

трэцюю і г. д. Трубы патрэбны для таго, каб па іх магла выходзіць наверх прасьвідраваная зямля. Гэтую зямлю вучоныя з кожным разам правяраюць, ці няма ўжо нафты? Калі ёсьць—перастаюць сьвідраваць. Тады трубы разам са сьвідрам дастаюцца з зямлі. На іх месца ўстаўляюць танчэйшыя трубы. Вышка цяпер непатрэбна: яна зьнімаецца. На яе месцы ставяць помпу, якая пампуе нафту, як ваду з студні.

Некалі людзі трацілі на сьвідраваньне 3—4 гады. Цяпер-жа пры дапамозе лепшых машын гэтую работу канчаюць за 2—3 месяцы.

Помпа працуе дзень і ноч без дапамогі людзей. Выпампаваная нафта адвозіцца ў Баку. Там на знарочыстым заводзе з нафты вырабляюць газу, бэнзыну і шмат іншых прадуктаў



*Бак, куды зьліваецца нафта.*

# ГОРАД НАФТЫ

Нарыс З. ГЭЗІНА



*Цягнікі з гатоваю нафтаю.*

Ля берагу Касьпійскага мора ёсьць вялікі горад Баку.

Горад Баку лічыцца горадам нафты. Тут месьцяцца самыя багатыя дзялянкі, адкуль здабываецца наша нафта.

Нафтавыя вышкі, як густы лес, укрылі горад. Высокія, чорныя стаяць яны, нібы вартуюць залатое дно нафты.

## У ЗАТОЦЫ ІЛЬЛІЧА

У затоцы, названай імем Леніна, знаходзіцца многа нафтавых вышак. Калісьці на месцы цяперашняй затокі было мора. На дне яго, у нетрах зямлі, было многа нафты. І сталі людзі думаць, як-бы дастаць яе адтуль.

прыдумалі людзі так: засыпаць частку мора.

Пачалася праца. Сабралі многа рабочых, караблёў і давай разрываць горы ды імі засыпаць мора, каб зрабіць на яго месцы сухазем'е.

І многа ўжо засыпалі.

І стаяць цяпер вышкі на тым месцы, дзе раней бушавалі хвалі мора.

І цяпер яшчэ засыпаюць мора.

## ЯК ЗДАБЫВАЕЦЦА НАФТА

Нафта ляжыць глыбока ў зямлі. Траха не на вярсту ўглыбкі.

На тым месцы, дзе хочуць здабываць нафту, будуецца вышка. Робіцца яна на час сьвідраваньня зямлі, каб у будынку зручней было працаваць.

Электрычны мотор прыводзіць у рух вялікі сьвідар. Ён пачынае сьвідраваць зямлю, уразаючыся ўсё глыбей і глыбей у зямлю. На сьвідар з верхняга канца прымацоўваюцца трубы, калі сьвідар уразаецца ў зямлю глыбей, на першую трубу нашрубоўваюць другую, трэцюю і г. д. Трубы патрэбны для таго, каб па іх магла выходзіць наверх прасьвідраваная зямля. Гэтую зямлю вучоныя з кожным разам правяраюць, ці няма ўжо нафты? Калі ёсьць—перастаюць сьвідраваць. Тады трубы разам са сьвідрам дастаюцца з зямлі. На іх месца ўстаўляюць танчэйшыя трубы. Вышка цяпер непатрэбна: яна зьнімаецца. На яе месцы ставяць помпу, якая пампуе нафту, як ваду з студні.



*Затока Ільліча.*

Некалі людзі трацілі на сьвідраваньне 3—4 гады. Цяпер-жа пры дапамозе лепшых машын гэтую работу канчаюць за 2—3 месяцы.

Помпа працуе дзень і ноч без дапамогі людзей. Выпампаваная нафта адвозіцца ў Баку. Там на знарочыстым заводзе з нафты вырабляюць газу, бэнзыну і шмат іншых прадуктаў



*Агульны выгляд часткі гораду Баку.*

*Бак, куды зьліваецца нафта.*




*Апав. П. ЗАМОЙСКАГА*

*Мал. А. ТЫЧЫНЫ*

Мікітку маці лаяла, а бацька за вушы круціў. Гэта яго за тое, што курыць навучыўся.

Зробіць вялізарную папяросу, пасусьліць яе, сагне папалам, вось і „казіная ножка“.

Курыць навучыў яго Міхаська.

— У сябе ўцягвай!—казаў Міхаська.

— Я ня ўмею.

— Кепскі-ж ты курэц! Глядзі, як я.

Надзьме шчокі, пацягне дыму ў рот і ўвесь яго праглыне. Разявіць рот—дым назад выходзіць. Альбо ў нос пусьціць, завітушкі кругленькія пачне выраблять.

— Вось як!

— Пачакай, і я гэтак.

— Ну, прабуй!

Разявіў рот і Мікітка.

Крыху закашляўся, пляваць пачаў. Удыхнуў яшчэ, сьлёзы з вачэй пакаціліся.

— Вучыся! Як навучышся, добра будзе. Заўсёды п'яным будзеш.

Лаецца бацька, а Мікітка яму:

— Ты сам курыш!

Угаварваў, угаварваў бацька па дабру. Нічога не памагала. Узяў папружку.

— Губы пасяку!



— А я, каб ня бачылі, цішком буду курыць...

Аднаго разу траха хлява не спаліў. Сабраўся цэлы гурт і давай курыць у хляве. А тут салома, мякіна розная.

Чыркнулі запалкай, адскочылася галоўка ў мякіну. Кураць, а ззаду дым слупом валіць.

Убачыў дзядзька Цімох, узяў палку.—Лайдакі, недаяркі!

Ледзь патушылі.

Матка ў сьлёзы кінулася.

— Сынок, кінь гэтыя жарцікі!

— Не, мама, не магу адвыкнуць. Вельмі добра курыць.

— Ды ты-ж згубіш нас, спаліш.

— Ня лайцеся, і ня буду цішком курыць.

— Эх, упарты ты, упарты!

Так і ня слухаў Мікітка ні маткі, ні бацькі.

Так і курыў да таго часу, пакуль у вёску ня прыехаў адзін чалавек з вялікім ліхтаром. Пачаў гэты чалавек у школе на палатне малюнкі розныя паказваць. Спачатку ўсё сьмешныя, дзіўныя, а потым чалавека пачаў паказваць.

Уложыць у ліхтар малюнак і тлумачыць.

І глядзіць народ, дзівіцца.
— Вось дык цуда!
Мікітку пад бок Сымонка штурхае:
— Глядзі, што выраблеецца.
Раптам бачыць Мікітка, што на палатне паказаўся малюнак.
— Гэта лёгкія чалавека, яны здаровыя, а вось глядзеце, якімі яны сталі ў курцоў.
Страшныя лёгкія ў курцоў: усе пакрытыя нейкімі чорнымі кропкамі, нібы закураныя сажаю.
— З гэткімі лёгкімі чалавек—калека, а не работнік. Усё жыцьцё недамагаць будзе.
— Вось што можа зрабіць курэньне.
І адчувае Мікітка, цяжка яму дыхаць. Сэрца калоціцца. Нават у пот кідае.
Выняў чалавек малюнак, і гаворыць да людзей:
— Паднімеце рукі, хто курыць.
Паднялі мужчыны рукі, і некаторыя падшывальцы паднялі. Мікітка не падняў. Вельмі страшна.
— І які я цяпер чалавек,—шэпча Мікітка.—Навошта я курыў?
Калі прышоў дахаты, крыкнуў да маткі і бацькі:
— Годзе, накурыўся! Усім хаўрусьнікам скажу, каб ня курылі. Гэтак скора і памерці ад курэньня можна.



# МІКІТКА

Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ.

Увечары сабраліся піонэры ў клюбе колгасу. Хто слухаў радыё, хто чытаў газэту „Піонэр Беларусі“, хто гутарыў пра спаборніцтва, хто гуляў у шашкі, у шахматы. Некалькі піонэраў пачалі прасіць павадыра расказаць ім, як жылі дзеці беднякоў у часы царскага ўраду. Павадыр згадзіўся, і ўсе піонэры абкружылі яго.

— „Я раскажу вам, мае маленькія таварышы, ня казку, а сапраўднае з жыцьця бедных вясковых дзяцей у часы царскага ўраду.

„Вы пра той час ведаеце толькі з кніжак і апавяданьняў. Вы ўсе ўжо дзеці Кастрычніка і бачыце, як будуецца новае, лепшае жыцьцё, дапамагаеце будаваць яго.

„А раней у тэй далёкі, страшны час жылося дзецям бедных зусім інакш. І ня верыцца цяпер, што гэта калісьці было. Ну, слухайце-ж. Я пачынаю сваё апавяданьне:

„Бацькі ў Мікіты няма. Мікітка яго і ня ведае зусім. Помніць ён толькі, як аднаго разу сабралася шмат людзей у іх хаце.



Бацька ляжаў на стале жоўты, худы. Перад ім стаяў поп і махаў нейкай блішчастай квартай, з якой ішоў дым. І дыму найшло поўна хата. За ім ня бачна стала Мікітку і бацькі. Потым панесьлі бацьку ў труне на могілкі. Матка вельмі галасіла. І потым матка плакала, калі аддавала апошнія два пуды жыта папу.

„Пасьля таго бацькі ўжо ня было, і Мікітка пачаў жыць з сваею маткай і маленькай сястрой Варкай. Зусім кепска стала жыць ім бяз бацькі. Улетку яшчэ так-сяк: хоць цёпла. А ўзімку і холадна і голадна. Сядуць яны ўсе ўтраіх на печку. А печка ледзь цёплая, бо паліць у ёй маці крышку трэсак ды сучча, якія зьбірае на ву-

ліцы ды па надворках. А хатка іх старэнькая, дзьме і ад вакон і ад дзьвярэй.

—Мамка,—прытуліцца Мікітка,—ці ведаеш—бачыў я сёньня як Петрык Адамаў пірог еў. Чаму ў нас ніколі пірага няма? Ён вельмі смачны, пірог, мамка? Чаму ў Петрыка пірог, а ў нас ніколі няма? Чаму Петрык дражніць мяне?

— У Петрыка бацька багатыр,—адкажа маці,—а мы бедныя, мае дзеткі, каб хоць хлябец быў і то добра.

— Мамка, я хлеба хачу,—папросіць Варка.—На, во скарынка засталася, зьеш, дзетачка, ды сьпі. Я во дапраду верацёнка, занясу заўтра Матруне, Петрыкавай матцы, яна нам крыху хлеба і бульбы дасьць. Будзем заўтра есьці.



*Аддавала апошнія два пуды жыта папу.*

— А на вошта ты прадзеш Петрыкавай матцы, Петрык-жа дражніцца, лаецца ўсяк на мяне?—пытаецца Мікіта.

— А што-ж мы есьці будзем, калі я ім прасьці ня буду?—адкажа маці.—Сьпеце ўжо, дзеткі, сьпеце,—дадасьць яна.

„Накрые маці Мікітку і Варку посьцілкай, а сама сядзіць, прадзе. Дыміць лучына, мітусяцца цені. Ляжыць Мікітка, глядзіць, як круціць маці кудзелю, як круціцца верацяно. Потым глядзіць, якая ад маткі на сьцяне вялікая страшная цень. Мітусіцца як жывая. Вось зноў глядзіць Мікітка на матку. Які ў яе худы, жоўты твар, якраз як у бацькі быў, калі ён ляжаў на стале, думае ён. А вось нейкія зорачкі па шчацэ маці пакаціліся. Маці абцерла вочы рукой.

„Мусіць, плача маці“, думае Мікітка.

— Мамка, чаго ты плачаш?—пытаецца ён,—можа есьці хочаш?

— Ці ты яшчэ ня сьпіш, сынок? Сьпі, заўтра хлеба прынясу, бульбы. Сьпі. Я ня плачу, гэта вочы зарэзала нешта.

„Ня прыкмеціць Мікітка, як вочкі яго заплюшчацца і ён засьне. Сьпіць Мікітка, сьпіць Варка, а маці доўга яшчэ прадзе кудзелю. Пракрычаць пеўні, а ў старэнь-

кай хаце ўсё яшчэ мігаціць агеньчык і сядзіць з верацяном хворая жанчына.

„Сьпіць Мікітка моцна, заплюшчыў ён свае сіненькія вочкі. Часта здрыганецца ў сьне і нешта гавора.

„Дагарае лучына. Вось і цёмна ў хатцы. Сьпіць галодная, хворая маці з дзяцьмі.

„А на дварэ сьвішча вецер, ды гэтак дзьме, што вось, вось, здаецца, зьнясе дах з хаты“...



*І сядзіць з верацяном хворая жанчына.*

Павадыр змоўк. Некалькі хвілін дзеці глядзелі на яго, быццам чакалі, каб ён гаварыў яшчэ.

„Вось і ўсё, кажа павадыр, а цяпер пара і вам спаць зьбірацца, бо ўжо дзясятая гадзіна вечара.

## ЖАРТ






*Як спрытны дзядзька цьвік забіваў.*





# ЯК ЛЮДЗІ ВУЧАЦЬ КОНЯЙ

Вы напэўна бачылі сабак, якія па загаду гаспадара садзіліся, станавіліся на заднія лапы і выраблялі ўсялякія іншыя штукі. Гэтым усім штукам можна навучыць і коняй. Праўда, гэта ня зусім лёгкая справа. Патрэбна вялікая цярплівасьць, практыка і час.

Вось што робіць вядомы муш-





травальнік коняй Вільямс Труццы, каб навучыць каня станавіцца на калені.

Конь трыножыцца. Да пута прывязваецца вяроўка—пасак. Сілай прымушаюць каня падагнуць ногі. Пасьля гэтага каню даецца кавалачак морквы. Кожны раз, як трэба пацяґнуць за пасак, каня зьлёгку б'юць па нагах ніжэй суставаў бізуном. Так паўтараюць некалькі разоў, пакуль конь не запамятае, чаго ад яго хочуць. Тады каня распутваюць і з пугаю ў руках прымушаюць прарабляць пад каманду ўсё тое самае. Потым ужо і пуга непатрэбна, а досыць толькі даць каню слоўны загад— і конь становіцца на калені.

Бізун толькі патрэбен у пачатку муштроўкі. Потым і без яго можна абыйсьціся. Конь па-



чынае разумець голас і цьвёрда запамінае ўмоўныя словы.

Вельмі важна ведаць характар каня. Кожны конь мае свой характар. У Вільямса Труццы быў конь „Дземан“, які іншы раз нараві́ўся. Або цэлы тыдзень ад яго нельга было чаго-небудзь дабіцца. Дапамагло тое, што „Дземана“ перасталі біць і пачалі гаварыць з ім ласкава, як з чалавекам, тлумачыць тое, што ён павінен быў зрабіць, і „Дземан“ здаўся. Праз некаторы час упартасьць зьнікла і „Дземан“ стаў добрым артыстым.

Настойлівасьць, цярпеньне і разумны бізун — асновы муштроўкі. Але і бізун трэба ўжываць не да ўсіх коняй. Ёсьць коні, якіх чапаць бізуном зусім нельга, а трэба абыходзіцца з імі, як з малым дзіцём.

Вось толькі такім шляхам удалося Вільямсу Труццы навучыць каня „Мадрыда“ садзіцца ў крэсла і пры гэтым вельмі прыгожа.

Труццы кажа, што коні маюць вельмі добрую памяць, якую і трэба разьвіваць.

Пры муштроўцы пападаецца і людзям. Бываюць калецтвы, але людзі не зважаюць на гэта, лічачы, што ў цыркавой працы калецтвы заўсёды могуць здарацца.



## ЗАГАДКІ

Гудзіць, як машына,  
Бяжыць па зямлі.  
Прабяжыць, узьнімецца —  
Ляціць угары.  
Збудавана мудра,  
Нават крыльлі мае,  
Ў паветры гуляе.

*

Ляжыць — ніжэй ката, устане — вышэй каня

*

Аднаго чалавека за хвост пацягнулі ў суд. Як гэта здарылася?

*

Міколу чатыры дзесяткі гадоў, а Янку пяць. Хто старэйшы?

*

Чатыры браты пад аднэй шапкаю стаяць, адным поясам падпяразаны.



# ГАДУЙЦЕ КУРЭЙ



*П. ХІЛІМОНАЎ*

Курыца прыносіць вялікую карысьць. Яна дае яйца, мяса, пяро і пух.

Яйца і мяса ўжываецца як харч. Яйца маюць многа бялкоў, якія патрэбны для чалавека. Мяса добра пераварваецца. Дактары курынае мяса раяць для ўжываньня хворым. Пух прадаецца заграніцу. Адтуль мы атрымліваем за гэта машыны. Пяро ўжываецца на падушкі.

На гэту карысьць мала зварочваюць увагі. Куры кепска даглядаюцца: даюць ім кепскі харч, трымаюць пад печкаю. Там цёмна, брудна.

Калі так іх трымаць, куры кепска нясуцца, часта хварэюць.

У нас думаюць, што курэй не патрэбна даглядаць. Але гэта няправільна.

Куры любяць сьвежае паветра, сьветлае памяшканьне. У гэтым памяшканьні павінна быць цяпла 8—12 градусаў.

Наша простая курыца дае ў год ня больш 60 яец, вагою па 40 грам. Ёсьць куры добрай пароды: Род Айланды (чырвоныя), Леггорны (белыя, гребень падобны на лісток),



*Леггорны.*



*Віандот.*



*Род-Айланды.*

Віандот (белыя). Гэтых курэй трэба больш разводзіць. Яны даюць у год да 120—140 яец, даюць мяса больш чым простая курыца.

У сябе дома, у школе, дзіцячых дамох, на пляцоўках трэба разводзіць такіх курэй. Лепш купіць яец і пасадзіць квактуху.

Садзіць яе трэба не раней красавіка і не пазьней чэрвеня. Кураняты, пакуль нарасьце на іх пяро, любяць, каб ім было цёпла, яны хутчэй растуць.

Трэба таксама паляпшаць нашу простую курыцу. Для гэтага трэба мець пеўня на 10 штук аднаго. Пеўні павінны быць не маладзей аднаго году, добрай пароды. Ад такіх пеўняў будзе добры прыплод, а гэтым самым палепшыцца простая курыца.

Курэй трэба добра карміць. Калі яны нясуцца, даваць ім зерня 90—100 грам у дзень, паіць чыстаю вадою.

Улетку корму ім даваць менш, яны самі шукаюць сабе корм, акрамя зярнят яны ядуць траву.

Зімою даваць ім капусту.

Кураняты вельмі прывыкаюць да людзей.

Пры дапамозе настаўнікаў, бацькоў дзеці павінны будаваць для іх памяшканьні, трымаць там курэй суседзяў, г. зн. разводзіць курэй колектыўна. У колектыўным птушніку менш выдаткаў, лепшы догляд. Пры школах абавязкова разьвесьці гэтых птушак.

Чым больш будзе птушак, тым больш будзе мяса, яец. А гэтым мы паможам дзяржаве больш купіць патрэбных нам машын.

## Як лепш паіць курэй




*Зрабеце такія прылады. Вада з бутэлькі (або з гаршка) часткаю выльлецца ў чарапок. Калі куры вып'юць, вада зноў выльлецца.*



*Каб куры не таптэлі і ня глумілі корму, трэба ім зрабіць кармушку.*



# Крэўныя сваякі чалавека



*Гэта партрэт цяперашняга чалавека Андрыяна. Ён вельмі падобны на малпу.*

Заяц дужа падобны на труса. Яны належаць да аднае пароды.

Вось цікавая справа, што заяц ня толькі па знадворнаму выгляду падобны на труса, але і кроў яны маюць аднолькавую.

Вучоныя аб гэтым даведаліся такім парадкам. Яны пералівалі кроў зайца трусіку. Трусік пасьля гэтага не хварэў і добра сябе адчуваў. Тое самае вучоныя заўважылі, калі пералівалі кроў трусіка зайчыку. Пры гэтым і зайчык адчуваў сябе добра.

Такую самую справу прарабілі вучоныя з крывёй ваўка і сабакі. Заўважылі пры гэтым, што ні воўк, ні сабака не хварэлі.

Потым вучоныя прарабілі такую пераліўку крыві ад трусіка малпе. Тут яны заўважылі, што малпа зараз-жа моцна захварэла і памерла. Тое самае здарылася і з трусікам, якому пералілі кроў малпы.



*Шкілет чалавека (зьлева) і шкілет малпы—гарылы (справа). Малая розьніца.*

На падставе гэтых досьледаў вучоныя даведаліся, што аднолькавую кроў маюць толькі жывёлы аднолькавай пароды, блізкія па сваяцтву. А мы добра ведаем, што сабака выраздзіўся з ваўка, а трусік з зайца.

Вось вучоных і зацікавіла думка, ці ня можна знайсьці пры дапамозе пераліўкі крыві сваякоў чалавека сярод жывёл.

Вучоныя пачалі пераліваць кроў чалавека розным жывёлам. Пры гэтым яны заўважылі, што толькі кроў малпы мае аднолькавую будову з крывёй чалавека. Гэта дае нам упэўненасьць, што бліжэйшым сваяком чалавека зьяўляецца малпа, што чалавек паходзіць ад малпы.

# ХТО ПЕРШЫ АДГАДАЎ ЗАГАДКІ?

Да 5-га сакавіка—часу здачы ў друк матар'ялу часопісі № 3—рэдакцыя атрымала звыш сотні допісаў з адгадкамі. Але правільна адгадалі ўсе загадкі толькі дзесяць чалавек. Рэдакцыя парашыла ўсім гэтым дзесяцём чалавекам выдаць дакляраваную прэмію: з сакавіка месяца яны будуць дармова атрымліваць часопісь „Іскры Ільліча" ў працягу трох месяцаў.

Часопісь будзе высылацца наступным тварышом:

1. *Стасю Фядошчаку* (Менск).
2. *Вучням* першай клясы практыкавальнай школы (Менск).
3. *Эміліі Варакса* (вёска Дзягільна, Меншчына).
4. *Былінскаму Барысу* (Менск).
5. *Атраду* (вёска Смалянка, Меншчына).
6. *Янку Кукаву* (ф-ка „Герой працы", гор. Добруш).
7. *Міхасю Анісаўцу* (вёска Каўпені, Гомельшчына).
8. *У. Мазелеву* (вёска Малейкі, Гомельшчына).
9. *А. Праляскоўскаму* (Марына-Горка).
10. *Ціхону Шчурка* (вёска Пятровічы, Меншчына).

**ДЗЕЦІ!**

**Шлеце свае загадкі ў рэдакцыю для надрукаваньня ў часопісі.**

ПРАВІЛЬНЫЯ АДГАДКІ

будуць такія:

1. Пісьмо, кніга.
2. Замок.
3. Зіма, вясна, лёд.
4. Ложка, зубы, горла.
5. Човен.
6. Цень.
7. Гадзіньнік.
8. Млын альбо цягнік.
9. Яйка.
10. Неба, зоры і месяц.
11. Сякера.
12. Валасы, вочы, нос, рот.
13. Чалавек, малы, вялікі, стары.
14. Кружкі круглыя.



Каго спалохаўся кот?

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдкалегія: ГАРБУЗ Н. (адк. рэдактар). РАЦЭВІЧ В., ЯКІМОВІЧ А. (адк. сэкратар).

